

# БЕЛАРУС

№450 • Студзень 1998 г.
Год выд. 48

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

# СВАБОДУ
## ПАЛІТЫЧНЫМ ВЯЗЬНЯМ У БЕЛАРУСІ
### Вадзіму Лабковічу, Аляксею Шыдлоўскаму, Вадзіму Кабанчуку!

20 сьнежня насупраць галоўнага ўваходу ў будынак Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў у Нью Ёрку сабралася вялікая грамада амэрыканскіх беларусаў, каб выказаць свой пратэст супраць бесчалавечнага рэжыму Лукашэнкі, які кідае ў турму непаўналетніх за палітычныя погляды, утрымвае за кратамі моладзь бяз суду, ужывае катаваньні, зьбівае людзей.

Рашэньне аб арганізацыі акцыі было прынятае 13 сьнежня на паседжаньні нью-ёрскага аддзелу БАЗА пры ўдзеле прадстаўнікоў БНФ. Паводле амэрыканскіх законаў, заява на правядзеньне пікету мусіць падавацца за 2 тыдні. Аднак у мясцовых беларусаў склаліся вельмі прыязныя адносіны з паліцыяй Нью Ёрку: акцыі беларускіх арганізацыяў заўсёды праходзілі надзвычай дысцыплінавана.

Адпаведна спадзяваньням, гарадзкія й паліцыйныя ўлады, усьведамляючы неадкладнасьць акцыі (пазьней пачаліся-б калядныя вакацыі й пікет страціў-бы сэнс), пайшлі насустрач беларусам і далі дазвол.

Дэманстранты патрабавалі неадкладнага вызваленьня з турмы палітычных вязьняў рэжыму: 16-гадовага школьніка Вадзіма Лабковіча, 18-гадовага студэнта Аляксея Шыдлоўскага й нядаўняга выпускніка Політэхнічнай Акадэміі Вадзіма Кабанчука. Усіх траіх вось ужо 4 месяцы бяз суду ўтрымліваюць у сьледчай турме па абвінавачаньні ў напісаньні лёзунгаў за свабоду Беларусі, супраць дыктатуры Лукашэнкі.

Над дэманстрантамі была моц белчырвона-белых сьцягоў і плякатаў пабеларуску й па-ангельску: «Патрабуем свабоды палітычным вязьням у Беларусі!», «Патрабуем вызваліць з турмы В. Лабковіча, А. Шыдлоўскага, В. Кабанчука — палітычных вязьняў рэжыму Лукашэнкі!», «Лукашэнка ператварыў Беларусь у турму!» ды інш.

Прысутныя весьцілі лёзунгі, раздавалі лістоўкі амэрыканцам (у тым ліку й паліцыянтам), выступалі з прамовамі, у якіх казалі, што справа вызваленьня В. Лабковіча, А. Шыдлоўскага, В. Кабанчука ёсьць зараз самай актуальнай і найважнейшай гуманітарнай справай і беларускага грамадзтва, і абаронцаў правоў чалавека ў сьвеце, бо правы арыштаваных паламаныя, бо пад пагрозай іхны чалавечы гонар, свабода, здароўе й жыцьцё. Беларусы ва ўсім сьвеце павінны дамагацца вызваленьня з лукашысцкай турмы гэтых

*(Працяг на с. 2)*




*Сярод удзельнікаў пікету — людзі ўсіх узростаў. Да прысутных прамаўлялі Я. Запруднік, З. Пазьняк, А. Шукелойць, Ю. Васілеўскі, А. Сільвановіч, В. Кіпель ды інш.*

# ЛУКАШЭНКА СПАДЗЯЕЦЦА НА СЬМЕРЦЬ БЕЛАРУСІ

Бэльгійская газэта *La Libre Belgique* 23 сьнежня паведаміла пра заяву беларускага прэзыдэнта Лукашэнкі аб ягонай прэтэнзіі на прэзыдэнцкую пасаду ў будучай расейска-беларускай дзяржаве. Маскоўскі карэспандэнт газэты Барыс Туманаў піша, што Лукашэнка, які разам з расейскім прэзыдэнтам Б. Ельцыным зьяўляецца сустаршынём беларуска-расейскага Саюзу, разьлічвае прыйсьці да ўлады ў Крамлі праз фэдэрацыю Беларусі з Расеяй.

Да нядаўняга часу Лукашэнка горача запярэчваў чуткам пра гэткі ягоны намер. Але, улічваючы тое, што беларуска-расейская фэдэрацыя можа быць створаная да канца прэзыдэнцкага тэрміну Ельцына, Лукашэнка пастанавіў адкрыць свае карты, ведаючы, што Ельцын ня можа цяпер супрацьпаставіцца ягонаму пляну.

Лукашэнка, піша Туманаў, карыстаецца ў Расеі вялікай падтрымкай з боку кансэрватараў (сярод іх мэр Масквы Юры Лужкоў) і фінансавых магнатаў, гэткіх як Барыс Беразоўскі. Паводле Беразоўскага, які надаўна наведаў Лукашэнку ў Менску, лібэральная ідэалёгія павінна быць зьмененая на карысьць «эвалюцыйнага разьвіцьця, якое больш падыходзіць нацыянальнаму мэнталітэту». У гэтых абставінах, піша Туманаў, Лукашэнка ўяўляе сабой ідэальнага лідэра для расейскіх кансэрватараў, і вельмі праўдападобна, што ягоная нядаўняя заява пра гатовасьць заняць галоўную пасаду ў сфэдэраванай дзяржаве становіць іхны агульны плян дзеяньня.

**Я.Ж.**

## ЗАБАРОНА НА ЭМІГРАЦЫЙНУЮ ПАЭЗІЮ

Загадам Міністэрства Адукацыі Рэспублікі Беларусь з праграмы па беларускай літаратуры выдаляюцца творы Ларысы Геніюш, Натальлі Арсеньневай і Масея Сяднёва. Таксама забараняюцца любыя згадкі пра гэтых беларускіх паэтаў. Загад пачынае дзейнічаць з 3-й чвэрці бягучага навучальнага году.

У той-жа час Лукашэнка па-фарысэйску раздае прэміі «Адраджэньне» дзеячам культуры Беларусі. Ці ня станецца заўтра так, што сёньняшнія ляўрэаты, сьледам за Геніюш, Арсеньневай і Сяднёвым будуць выкінутыя ўладаю зь беларускае культуры?!

## ПОЛЬШЧА ЎВЯЛА ВІЗЫ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ

З 4 студзеня Польшча ўвяла жорсткі візавы рэжым для грамадзянаў Беларусі. Гэтае рашэньне было прынятае польскім бокам зусім нечакана для нашых суродзічаў. Таму адразу-ж па надыходзе новага году на беларускапольскай мяжы (пераважна ў Берасьці) былі затрыманыя тысячы беларускіх грамадзянаў, што ехалі ў Польшчу — хто адведаць родных і сяброў, хто закупіць тавар.

Цяпер у Польшчу можна будзе трапіць толькі маючы запрашэньне, заверанае ваяводзкаю ўправаю, або ваўчар, які забясьпечвае гатэль і харчаваньне.

У польскім консуляце ў Нью Ёрку нам паведамілі, што транзытныя візы ставяцца бясплатна.

## ПАБІЛІ ЮРЫЯ ХАШЧАВАЦКАГА

Увечары 23 сьнежня ў Менску двое мужчынаў уварваліся ў студыю кінарэжысэра Юрыя Хашчавацкага й зьверскі пабілі яго. Хашчавацкі ведамы найбольш сваім дакумэнтальным фільмам пра Аляксандра Лукашэнку "Звычайны прэзыдент". Паказ фільму на Беларусі забаронены, але ён шырака распаўсюджаны ў відэакасэтах. Фільм цалкам паказвалі ў прыбалтыцкіх краінах і фрагмэнтамі ў Расеі. «Звычайны прэзыдэнт» зроблены на ўзор расейскай дакумэнтальнай стужкі 1960-х гадоў «Звычайны фашызм». Фільм Хашчавацкага атрымаў узнагароду на сёлетнім фэстывалі ў Бэрліне.

Пасьля нападу Хашчавацкі ходзіць на мыліцах: яго зьбілі да страты памяці, пабітая галава, паламаныя косьці. Кінарэжысэр сказаў, што напад на яго зьвязаны зь ягонай творчай дзейнасьцяй.

## БЕЛАРУСЬ ВАРОЧАЕЦЦА Ў МІНУЛАЕ?

Гэткі назоў мае артыкул-інтэрвію Зянона Пазьняка газэце *Washington Times* (7 студзеня). Сёньня кіраўніцтва Беларусі, гаворыцца ў артыкуле, нешта сярэдняе між нацызмам і сталінізмам. У цэлым-жа, падкрэсьлівае журналістка А. Гэер, у Беларусі ўсталявалася дыктатура, прытым Лукашэнка мае вока на расейскі «пасад». Хоць мэханізм злучэньня Беларусі з Расеяй не працуе, цяперашняя Беларусь — гэта палігон для расейскае палітыкі, робіць выснову З. Пазьняк

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ЭМІГРАНТ З АМЭРЫКІ СТАНОВІЦЦА ПРЭЗЫДЭНТАМ

4 студзеня Летува абрала прэзыдэнта. Ім стаў 71-гадовы Валдас Адамкус — былы эмігрант, які жыў у ЗША з 1949 г.

Перамога эмігранта ў барацьбе за найвышэйшую дзяржаўную пасаду — выключна важны прэцэдэнт для нас, беларусаў замежжа. Адамкус засьведчыў, што, апынуўшыся за межамі бацькаўшчыны, людзі не стаюцца страчанымі для яе — яны могуць актыўна ўплываць на становішча ў сваім родным краі.

Такім чынам, у выпадку зь Беларусяй асабліва актуальнай можа стаць дзейнасьць Рады БНР як легітымнага гаранту беларускае дзяржаўнасьці.

Параза на прэзыдэнцкіх выбарах кандыдата ад левых, думаецца, дастаткова істотная для беларускай супольнасьці ў Летуве. Прынамсі, віленскія беларусы спадзяюцца, што цяпер афіцыйная палітыка Летувіскае дзяржавы ў дачыненьні як да нашых суродзічаў, так і да беларускіх уладаў, стане больш пасьлядоўнаю.

На іх думку, калі-б В. Адамкус быў прэзыдэнтам Летувы яшчэ ў часе сустрэчы прэзыдэнтаў Усходняй Эўропы ў Вільні (лета 1997 г.), то — у адрозьненьне ад тагачаснага прэзыдэнта А. Бразаўскаса — не запрасіў-бы на сустрэчу Лукашэнку.

Цікавая дэталь: яшчэ падчас прэзыдэнцкае кампаніі В. Адамкус у інтэрвію для БЕЛТА (дзяржаўнае інфармацыйнае агенцтва Беларусі) зазначыў, што, стаўшы прэзыдэнтам, пастараецца чым хутчэй спатканца з Лукашэнкам.

**З. С.**

## СТРЭЛ У ФРОНТАЎЦА

Сталася гэта летась у лістападзе, напярэдадні адной з акцыяў БНФ супраць рэжыму. Сябра БНФ Аляксандар Фурсевіч разносіў улёткі — запрашэньні на акцыю — у менскім раёне Паўднёвы Захад (па-людзку гэты раён мусіў-бы менавацца Пятроўшчына — паводле назвы прылеглае вёскі). Калі Аляксандар быў у пад'езьдзе дому №2 па вуліцы Голубева, зь ліфта выйшаў малады чалавек «на падпітку». Пабачыўшы, што фронтавец раскідае па паштовых скрынях улёткі, ён заявіў, што зьяўляецца сяржантам АМОНу (фактычна — ваенізаванай міліцыя), і, абвінавачваючы сп. Фурсевіча ў парушэньні ўказу прэзыдэнта, загадаў ісьці зь ім у аддзяленьне.

Фронтавец не падпарадкаваўся. Тады выслужлівы сяржант, нягледзячы на свой нецьвярозы стан, пастараўся затрымаць Аляксандра. Пры гэтым ён у запале выкрыкваў: «Вас надо пластать!», што ў перакладзе з «блатной» (злодзейскай) расейскай мовы значыць: «Вас (БНФ, нацыяналістаў) трэба зьнішчаць!»

Фронтаўцу ўдалося вырвацца, і ён кінуўся прэч з пад'езду. Наўздагон яму прагучаў стрэл. Амонавец страляў «на паражэньне» — з мэтаю забіць, а не ў паветра: Аляксандар пачуў, што куля праляцела паўзь яго.

Аднак падобным чынам не заўсёды сустракаюць беларускіх актывістаў пад'езды дамоў.

Адна немаладая жанчына, бабуля ўжо траіх унукаў, таксама раскідала па скрынях запрашэньні на мітынг БНФ, калі ў пад'езд увайшоў міліцыянт. Такая прыгода магла скончыцца для жанчыны вельмі невясёла: аддзяленьне міліцыі—суд—штраф...

Але міліцыянт адразу-ж супакоіў жанчыну: «Ня бойцеся, я гэтага Лукашэнку й усіх ягоных сам ненавіджу». Ён запрасіў жанчыну да сябе ў кватэру, разам з жонкаю пачаставалі, расказалі, што жыцьцё прыціснула, — каб ня дзеці, кінуў-бы гэтую службу, бо надакучыла саромецца людзей, бо інакш як «фашыстамі» ды «дармаедамі» міліцыянтаў не называюць...

## ІЗНОЎ ВОРАГІ...

10 студзеня Беларуская Тэлевізія ў праграме «Рэзананс» вуснамі скандальна ведамага Зімоўскага паінфармавала, што З. Пазьняк чарговы раз рыхтуе дзяржаўны пераварот — імкнецца адхіліць ад улады Лукашэнку. Было сказана, што ў рукі Беларускае Тэлевізіі трапіў плян перавароту й фінансаваньня гэтай акцыі Амэрыкаю, якая павінна даць З. Пазьняку 32 мільёны даляраў.

Дарэчы, перад Новым Годам Лукашэнка ў інтэрвію агенцтву «Інтэрфакс» абвесьціў, што ЗША — галоўны вораг Рэспублікі Беларусь і асабіста Лукашэнкі.

З. Пазьняк ацаніў гэтую заяву як правакацыю й у лісьце да Ўправы Сойму БНФ ад 12 студзеня адзначыў наступнае:

«Правакацыя рэжыму ёсьць адказ на кампанію БНФ аб адстаўцы Лукашэнкі й збор подпісаў аб адстаўцы, на намер разгарнуць яго шырока па ўсёй Беларусі. Гэтае дзеяньне поўнасьцю адэкватнае як рэакцыя на ініцыятыву, якая рэальна можа пагражаць рэжыму, якая палітычна канкрэтная й прадугледжвае канкрэтныя вынікі».

## НОВАЯ ІНСТЫТУЦЫЯ ЛУКАШЭНКІ

У Дзяржкамітэце па Справах Рэлігіі й Нацыянальнасьцяў Рэспублікі Беларусь паболела крэслаў — зьявілася пасада галоўнага экспэрта па справах беларускага замежжа. Гэтае месца заняла сп. Ніна Петухова.

# СВАБОДУ ПАЛІТЫЧНЫМ ВЯЗЬНЯМ...

*(Працяг з с. 1)*

маладых беларускіх герояў, якія ахвяраваліся й церпяць за Беларусь!

Было выказана таксама зьдзіўленьне з маўклівасьці так званага «незалежнага» друку ў Беларусі, які замест таго, каб выступіць у абарону Лабковіча, Шыдлоўскага й Кабанчука, мусіруе тэму П. Шарамета, якая ня мае ніякага дачыненьня ні да свабоды слова, ні да вызвольнага змаганьня ў Беларусі.

Увогуле Захад як носьбіт больш гуманнай ідэалёгіі хутчэй адклікаецца на несправядлівасьць, паламаньне правоў і пакуты канкрэтнага чалавека. Беларусы Амэрыкі вельмі занепакоеныя лёсам маладых вязьняў, бо тут ім (амэрыканцам) добра вядома, як у 1996 г. лукашысты схапілі маладога выкладчыка Бабруйскага лесатэхнічнага тэхнікуму Юрыя Бабуджыева й 7 месяцаў катавалі яго: «выбівалі» паказаньні. Турэмныя каты замардавалі Юрыя насьмерць. Яго забілі бяз суду ў турме, адабралі жыцьцё пакутніцкай сьмерцю, і ніхто ў Беларусі ня выступіў у яго абарону, не нагадаў пра адказнасьць забойцаў.

Людзі жывыя духам, здаровыя псыхічна, людзі добрай волі, беларусы павінны ратаваць, абараняць, змагацца за кожнага беларуса, за кожнага грамадзяніна Беларусі, які выступіў за свабоду й волю, які цярпіць ад акупантаў. Так гаварылася на беларускай дэманстрацыі перад будынкам Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў.

Потым быў зачытаны калектыўны ліст у Камісію па правох чалавека ААН, які будзе перададзены таксама ў іншыя праваахоўныя міжнародныя арганізацыі.

**Мар'ян Ванькевіч**

### ВАДЗІМ ЛАБКОВІЧ

Родам зь Менску. 16 гадоў. Вучань 11-га кляса 95-й школы г. Менску. Добра вучыцца. Першы раз быў затрыманы вясной 1997 г. падчас масавай маладзёвай маніфэстацыі супраць дыктатарскага рэжыму. Зноў арыштаваны 28 жніўня. Абвінавачаны па арт. 201 ч. 2 і арт. 86 ч. 2 Крымінальнага Кодэксу («злоснае хуліганства» й «зьнявага дзяржаўнай сымболікі»). Кагэбісты лічаць, што ён разьвешваў у горадзе беларускія бел-чырвона-белыя сьцягі.

Маці: Лабковіч Ядвіга Язэпаўна, таваразнаўца. Адна выхоўвае Вадзіма й меншага сына, 4-клясьніка. Маці Лабковіча адмовілася на запатрабаваньне пракурора Стаўпецкага раёну даваць паказаньні супраць сына. За гэта пракурор не дазволіў ёй спатканьне з сынам (гэта парушэньне закону, тым больш што Вадзім непаўналетні). Адрас маці: Ядвіга Лабковіч, вул. Гая, 24-62, г. Менск, Беларусь. Тэл. +375-17-213-7990.

### АЛЯКСЕЙ ШЫДЛОЎСКІ

Родам са Стоўпцаў. Студэнт 1-га курсу журналісцкага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту. 27 сьнежня яму споўнілася 19 гадоў. Выключаны з Унівэрсытэту летам 1997 г. за палітычную дзейнасьць у «Маладым Фронце». Вясной 1997 году быў арыштаваны на 10 сутак за ўдзел у студэнцкіх дэманстрацыях пратэсту супраць рэжыму. Трымаў галадоўку.

Бацька: Міхась Пятровіч, працуе шафёрам. Маці: Раіса Янаўна, працуе на раённай пошце. Арыштаваны 25-га жніўня. Прад'яўленыя тыя-ж абвінавачаньні, што й Лабковічу.

Сьледчы, які вёў справу ў Стоўпцах: Папін Васіль Сьцяпанавіч. Пракурор: Мяцельскі Сяргей Васільевіч. Са Стоўпцаў Аляксея перавялі ў Жодзіна. Там ён абвясьціў галадоўку. За гэта быў па-зьверску зьбіты адміністрацыяй Жодзінскай сьледчай турмы. Страціў прытомнасьць. Трапіў у рэанімацыю турэмнага шпіталю. Абвастрыліся хваробы: арытмія сэрца, астматычныя прыступы, запаленьне нырак.

Адрас бацькоў: М. і Р. Шыдлоўскія, завулак Стадыённы, 7, г. Стоўпцы, Менская вобл., Беларусь. Тэл. +375-217-54-698.

### ВАДЗІМ КАБАНЧУК

Нарадзіўся й жыве ў Бабруйску. Выпускнік Беларускай Політэхнічнай Акадэміі, аўтатрактарны факультэт. 22 гады. Арыштаваны 12-га кастрычніка 1997 г. за ўдзел у веснавых дэманстрацыях. Знаходзіцца ў сьледчай турме ў Менску.

Бацька: Міхась Апанасавіч, рабочы. Маці: Тацьцяна Карпаўна, бібліятэкар. Двое прадзедаў Вадзіма загінулі ў сталінскіх лягерох у Сібіры. Бабуля пры Сталіне адседзела 8 гадоў і вярнулася зь лягероў сьляпою. У турме ў Вадзіма абвастрыліся хваробы нырак, горла й сэрца. Матцы забаранілі перадаваць яму лекі.

Адрас бацькоў: М. і Т. Кабанчукі, вул. Урыцкага, 71-143, г. Бабруйск, Магілёўская вобл., Беларусь. Тэл. +375-2251-27-241.

## КАНГРЭСМЭНЫ ЗАНЕПАКОЕНЫЯ ЛЁСАМ ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ

16 сьнежня Камісія Кангрэсу па бясьпецы й супрацоўніцтве ў Эўропе зьвярнулася ў пасольства Беларусі ў Вашынгтоне з афіцыйным лістом, у якім нагадала пра факты парушэньня ўладамі Лукашэнкі міжнародных дамоўленасьцяў што да правоў чалавека ды ўмоваў утрыманьня вязьняў.

У лісьце, падпісаным старшынёю Камісіі Альфонсам д'Аматам ды сустаршынёю Камісіі Крыстафэрам Сьмітам, выказваецца патрабаваньне вызваліць з турмы траіх маладых людзей — беларусіх палітзьняволеных.

Згаданы ліст да пасольства Беларусі стаўся рэакцыяй на інфармацыйную актыўнасьць беларускае апазыцыі, у прыватнасьці — на сэрыю сустрэчаў З. Пазьняка з уплывовымі амэрыканскімі палітыкамі, супрацоўнікамі ДзяржДэпартамэнту ЗША, журналістамі найбуйнейшых пэрыядычных выданьняў.

Падчас гэтых сустрэчаў адным з цэнтральных пытаньняў была праблема, зьвязаная зь незаконным трыманьнем за кратамі В. Лабковіча, А. Шыдлоўскага ды В. Кабанчука.




*Знаны калекцыянэр Станіслаў Цярохін даслаў у рэдакцыю новыя беларускія значкі.*

## НАВІНКІ ІНТЭРНЭТУ

З гэтага нумару мы будзем інфармаваць чытачоў пра ўсё новае, што адбываецца ў беларускай «павуцінцы» — на Інтэрнэце. Леташні расейскамоўны варыянт ведамага часапісу *PC World* засьведчыў, што беларускіх старонак ужо нямала: ён сабраў багатую калекцыю, якую можна агледзець па адрасе **http://www.nsys.minsk.by/pcworld/links.html**. Гэта найбольшы на сёньня збор. А тым часам зьяўляюцца й новыя.

Як прыклад — гішпанамоўная старонка П. Эскабара *Amigos de Bielorussia* (**http://www.geocities.com/CapitolHill/9854/index.html**). Яна пакуль ня зусім дасканалая тэхнічна, ненатуральным выглядае зьмяшчэньне побач Пагоні й лукашэнкаўскага сьцягу, але сам прарыў у гішпанамоўны сьвет можна толькі вітаць. Палітычная сьвядомасьць яшчэ прыйдзе — і ў гэтым могуць дапамагчы самі чытачы.

Яшчэ адная новая старонка — 16-гадовага Ільлі з Ванкувэру (**http://www3.bc.sympatico.ca/ilia/**). Ён зьмясьціў інфармацыю з геаграфіі, палітыкі, культуры Беларусі.

Старонка БНФ ужо добра вядомая карыстальнікам кампутараў, але зьвярніце ўвагу — яна набыла новы адрас: **http://pages.prodigy.com/belarus/bpf.htm**.

Па-ранейшаму адной з найбуйнейшых старонак застаецца *Virtual Guide* (**http://139.146.226.23/Belarus.html**). Аб'яднаўшы некалькі чалавек — сурэдактараў, ён па-ранейшаму шукае новых кантактаў. Напрыканцы году да віртуальнай рэдкалегіі далучыўся новы сябра — Андрусь Жвір, які стварыў «Беларускую палічку» (**http:// www.wu-wien.ac.at/groups/belarus/**). Ужо зараз там можна прачытаць вершы Адама Глёбуса й кнігу Стаха Дзедзіча «Эпілог», «Матар'ялы 'Архіву Найноўшае Гісторыі': Кроніка дэмакратычнага руху ў Беларусі 1953—1988». У плянах: Ігнат Абдзіраловіч. *Адвечным Шляхам*, Мікола Ермаловіч. *Па слядах аднаго міфа*, Генадзь Сагановіч. *Невядомая вайна: 1654—1667, З гісторыяй на «Вы»*. Публіцыстычныя артыкулы (выпускі 1, 2), Юрка Віцьбіч. *Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі.*

Цікавай — як тэхнічна, гэтак і сваёй «апалітычнасьцю» — уяўляецца й беларускамоўная старонка, прысьвечаная анімацыйнаму фільму «Кароль Леў» (**http://194.226.125.34/Entertainment/HakunaMatata/**).

## Дасьледчы Цэнтар Гісторыі Іміграцыі (ДЦГІ) пры Ўнівэрсытэце штату Мінэсота

ў сваіх брашурах і чароднай справаздачы (ліпень 1994 — чэрвень 1996) паведамляе, што беларускі архіў і кнігазбор Цэнтру папоўніліся наступнымі матар'яламі: ад сп-ва З. і В. Кіпеляў, спн. Раісы Жук-Грышкевіч, сям'і Пануцэвічаў—Бяленісаў—Будзькаў, сп. Кацярыны Пунтус, Фонду Аліцыі й Яна Пятроўскіх.

Як мы паведамлялі раней, ДЦГІ — афіцыйная ўстанова, якая фундуецца часткова Ўнівэрсытэтам штату Мінэсота, часткова праз фэдэральныя ды іншыя гранты.

Цэнтар заклікае дасылаць матар'ялы на адрас:

***University of Minnesota***
***Immigration History Research Center***
*College of Liberal Arts*
*826 Berry Street*
*St. Paul, MN 55114-1076*

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ РЭДАКЦЫІ

**ДА ЧЫТАЧОЎ У НЬЮ ДЖЭРЗІ**

Па ўсіх пытаньнях аплаты, падпіскі й рассылкі зьвяртайцеся да Сяргея Трыгубовіча на адрас:

**Sergey Tryhubovich**
**40 Deerfield Rd.**
**Somerset, N.J. 08873**

**ДА ЧЫТАЧОЎ У ІНШЫХ ШТАТАХ І КРАІНАХ**

У справе аплаты, падпіскі й рассылкі просім зьвяртацца непасрэдна на адрас газэты:

**BELARUS**
**P.O. Box 310178**
**Jamaica, N.Y. 11431-0178**

Падпіска прымаецца чэкамі ($30).

## ПОШТА

*Паважаная рэдакцыя!*

*У верасьнёўскім нумары газэты «Беларус» (№ 447) надрукавана невялікая зацемка «Нясьвіжская настаўніцкая сэмінарыя», якая канчалася такімі словамі: «Сёньня на эміграцыі яшчэ жывуць вучні былой Нясьвіжскай настаўніцкай сэмінарыі. Будзем спадзявацца, што яны таксама захочуць напісаць пра выкладчыкаў і студэнтаў, пра сябе...»*

*А чаму толькі на эміграцыі?*

*Я, Баханчык Аляксандар, пасьля ссылкі і працы на Далёкай Поўначы былога СССР (Комі АССР) вярнуўся дамоў і жыву ў Гарадзеі, побач зь Нясьвіжам.*

*Баўдзей Генадзь, былы студэнт II курса сэмінарыі пасьля адбыцьця пакараньня ў лягерох (Казахстан) жыве сёньня ў Баранавічах. Мы ведаем, што былы студэнт II курса Пілецкі жыве на ўскраіне Менску, і г. д.*

*А пішу я гэты ліст у Познані, дзе спаткаўся з былою сяброўкаю па сэмінарыі Марыяй Шэльлер (Календа), якая й зараз цікавіцца лёсам былых сэмінарыстаў. Мы адгэтуль напісалі шмат лістоў у розныя краіны да былых нашых сяброў па сэмінарыі.*

*Бо, як вядома, па-за межамі Беларусі жывуць зараз такія вядомыя выпускнікі й навучэнцы Нясьвіжскай сэмінарыі, як а. Аляксандар Надсон, Юры Весялкоўскі, Мікола Сенька ды іншыя.*

*Ня ўсе мелі магчымасьць уцячы ад рэпрэсіяў у суседнюю краіну. Але той, хто ўцёк, меў іншае жыцьцё, чым тыя, хто застаўся.*

*Так, напрыклад, Марыя Календа, маючы ўсяго 17 гадоў, у 1945 годзе сядзела ў камэры турмы ў Баранавічах, дзе яе прымушалі да супрацоўніцтва з органамі НКВД і выпытвалі аб паводзінах падчас акупацыі кожнага знаёмага юнака ці юначкі, сяброў СБМ. Спадар Субоцін, упаўнаважаны «органаў», не астаўляў яе бяз увагі ў Гарадзеі да самага выезду ў Польшчу.*

*І такое паспытала ня толькі яна адна.*

*Нам вядомы прозьвішчы былых студэнтаў сэмінарыі, такіх як Галя Акуліч, Вера Мормыш, Зіна Сьвірыд ды інш., якія за сваю дзейнасьць у СБМ атрымалі альбо 10 гадоў лягеру, альбо 3—6 гадоў высылкі (спэцпераселеньне) на Далёкую Поўнач.*

*Нам добра вядомы былы настаўнік сэмінарыі спадар Тулейка, на якога спасылаецца газэта. Мяне навучала й яго жонка, Вольга Тулейка, зь якой сп. Міхась Тулейка ажаніўся тады, калі мы вучыліся ў сэмінарыі.*

*Дзівіць трохі, што сп. Міхась Тулейка, родам зь Нясьвіжа, не ўспамінае настаўніка сэмінарыі Васіля Шастаковіча, які таксама быў родам з аколіц Нясьвіжа й выкладаў у малодшых клясах сэмінарыі.*

*Газэта «Беларус» нядаўна публікавала павядомленьне аб сьмерці Лявона Вініцкага, сына Аляксея Вініцкага, арганізатара сэмінарыі падчас акупацыі.*

*Мяркуем, што сыны сп. Вініцкага больш ведалі аб тых высілках, якія спатрэбіліся, каб адкрыць настаўніцкую сэмінарыю ў Нясьвіжы. Нажаль, Лявон Вініцкі ўжо нічога ня скажа, час страчаны. Дык мо ёсьць сэнс папрасіць спадароў Надсона, Весялкоўскага ды іншых падзяліцца сваімі ўспамінамі аб сэмінарыі, пакуль ня позна.*

*Сярод настаўнікаў, якіх у газэце «Беларус» успамінае сп. Тулейка, бракуе прозьвішчаў Фаміна й Мухі, былых ваеннапалонных. Бракуе й прозьвішча былога выкладчыка нямецкай мовы, які разам з Фаміным нагаворваў на былых студэнтаў, што прыводзіла да арышту зусім ні ў чым не вінаватых студэнтаў. Так, напрыклад, я ведаю, што студэнтка III курса (аднаго са мною) Зінаіда Сьвірыд ня езьдзіла ў Нямеччыну на курсы прапаганды, не намаўляла нікога ехаць у Нямеччыну на працу, яна толькі пільна вучылася, а такія з дазволу сказаць «настаўнікі», як Фамін ды выкладчык нямецкай мовы (прозьвішча якога я забыўся) абгаварылі яе, каб ратаваць уласную скуру. А колькі я ня ведаю аб дзейнасьці «савецкіх патрыётаў» у сьценах нашай сэмінарыі!*

*На сёньняшні дзень жывуць яшчэ на Беларусі былыя навучэнцы Нясьвіжскай сэмінарыі Касмовіч Вера Сямёнаўна (дзявочае прозьвішча Скачко) у Гарадзеі, Кісель Уладзімір Адамавіч у Горадні. А з колькімі няма сувязі, бо яны некалі ня былі рэпрэсаваныя й не ліставаліся з намі.*

*Пакуль аб дзейнасьці навучэнцаў Нясьвіжскай сэмінарыі ёсьць каму пісаць і на радзіме, і па-за яе межамі. Але час нагліць. Яшчэ дзясятак гадоў — і ніхто ўжо не падзеліцца ўспамінамі аб дзейнасьці гэтай беларускай пляцоўкі падчас акупацыі, падчас нялюдзкай вайны.*

*А ўспомніць ёсьць што, асабліва айцу Надсону ды іншым выпускнікам гэтае навучальнае ўстановы, якія вясною 1944 году яе закончылі.*

*Сьпяшайцеся зьбіраць зьвесткі, нас з кожным годам менш!*

*Пакуль мы жывыя — жыве Беларусь!*

*

*Дзень добры, паважаная рэдакцыя!*

*Я пастаянны чытач Вашай газэты, і ў мяне ўзьнікла думка: можа Вы дапаможаце ў маёй праблеме. Я прыехала сюды 2 гады таму назад, жыву ў Стэйтэн Айлендзе й ня маю магчымасьці езьдзіць так далёка ў праваслаўную царкву. Можа ёсьць праваслаўная царква ў Стэйтэн Айлендзе? І яшчэ я шукаю дапамогі ў вывучэньні ангельскай мовы. Ці жывуць беларусы ў Стэйтэн Айлендзе?*

*Можа Вы дапаможаце скантактавацца з кім-небудзь, бо я ня маю тут сяброў з маёй краіны.*

*Мой адрас:*
***Natalla Maryn***
*37 Regina Lane*
*Staten Island, N.Y. 10312*
*tel. (718) 967-9407*

## ХРОНІКА

### АДЭЛАЙДА, АЎСТРАЛІЯ

14 сьнежня 1997 г. у царкве сьвятых Пятра й Паўла (БАПЦ) сабраўся парафіяльны сход, які адкрыў старшыня Ўладзімір Акавіты. Сакратар Аляксандар Садоўскі зачытаў пратакол, каб нагадаць, якія асобы займалі пасады старастаў і ўваходзілі ў царкоўную ўправу ды рэвізійную камісію.

Старшыня зрабіў справаздачу за 1997 год і выказаў падзяку а. Міхасю Бурносу, царкоўнай радзе, кантрольнаму камітэту й старастам.

Скарбнік Уладзімір Калесьнікович пазнаёміў парафіянаў зь фінансавай справаздачай, якая атрымала апрабату рэвізійнае камісіі.

На сходзе дыскутавалася вельмі важнае й балючае пытаньне. У зьвязку з разбудоваю стадыёну, што прылягае да царквы, узьнікла складаная сытуацыя, якая мае два рашэньні: або прадаць царкву, або захаваць *status quo*.

Нажаль, сходу не ўдалося прыйсьці да адзінае думкі.

### БЕЛАРУСКАЯ ВЫСТАЎКА Ў АГАЁ

14 сьнежня 1997 г. адбылося адкрыцьцё мастацкае выстаўкі «Беларускія апосталы», на якой экспанавалася 75 партрэтаў дзеячоў беларускай культуры й нацыянальнага адраджэньня — тых, хто прынёс гонар нашай зямлі, хто змагаўся за яе незалежнасьць.

Адкрыў выстаўку кіраўнік Кліўлендзкага Аддзелу БАЗА Янка Ханенка.

На завяршэньне імпрэзы быў паказаны кінафільм «Беларускія калюмбы», зьняты рэдакцыяй тэлечасапіса «Роднае слова» пад кіраўніцтвам Уладзімера Содаля. У аснову стужкі леглі матар'ялы з аднаймennай выстаўкі, што прайшла летась у менскім Чырвоным касьцеле.

Арганізатары абедзьвюх выставак А. і С. Белыя маюць пляны ня толькі рэгулярна праводзіць падобныя імпэзы, але й закласьці ў штаце Агаё беларускую бібліятэку, стварыць архіў, фона- і фільматэку, зарганізаваць этнаграфічны музэй.



*Хор «Васілёк» на сьвяткаваньні 77-ых угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну ў Кліўлендзе, Агаё, 7 сьнежня 1997 г. Усярэдзіне — айцец Дзь. Беленькі.*

## Да гісторыі Беларускіх Збройных Сілаў

Мікола Дзямідаў (1888—1967) прайшоў свае вялікія дарогі ад Сьвіслацкай Сэмінарыі й 1-й Паўлаўскай Ваеннай Вучэльні да службы ў войсках БНР.

20 сьнежня 1918 г. з часткамі генэрала Кандратовіча ён увайшоў у Горадню й быў прызначаны камэндантам горада й усяе акругі. Менавіта ў гэты час у Горадні знаходзіўся Ўрад БНР. Праз два гады М. Дзямідаў уступіў у армію Булак-Балаховіча, які прызначыў прафэсійнага вайскоўца начальнікам штабу 1-й Беларускай Брыгады, а крыху пазьней — камандуючым усіх Беларускіх Збройных Сілаў, што знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі.

Але-ж беларуская праца адно войскам не абмяжоўвалася. У 1922 г. М. Дзямідаў быў вылучаны ад Беластоцкай акругі на кандыдата ў паслы ў Сэйм, а ў 1943 г. на Лідчыне арганізоўваў беларускія школы й самаахову.

Пасьля гэтага — вымушаная эміграцыя ў ЗША, у Чыкага.



*Подпіс на адвароце:*
***Беларускі Камэндант гор. Горадні і Акругі Падпалкоўнік М. Дзямідаў. 1919.I.II.***

У 1964 годзе наладзілася ліставаньне М. Дзямідава зь Юркам Віцьбічам, калі пісьменьнік зьвярнуўся да генэрала па дапамогу: на варштаце былі артыкулы пра Булак-Балаховіча. У прыватнасьці, Ю. Віцьбічу здавалася, што «галоўнай прычынай паразкі Беларускае Арміі зьяўляліся ня столькі справы на фронце, колькі жыдоўскія пагромы ў тыле. І ці не зьяўляецца ў дадзеным выпадку Карзун-Фэдарэнка бальшавіцкім правакатарам? А тым болей, што ў выснаве ўчыненага ім жыдоўскага пагрому ў Пінску Армія згубіла свайго Бацьку?» (ліст ад 12.07.1964).

Мікола Янавіч Дзямідаў — гэтак падпісваў ён свае лісты — далёка ня з усім пагаджаўся ў ацэнцы Балаховіча, але быў рады ліставаньню: «Багата ўспамінаў аднавілася ў маёй галаве, бо я зьяўляўся наступным за Бацькам Атаманам і Камандуючым пры ягоным наступе на Мазыр авангарднымі, а пры адступленьні ар'ергарднымі атрадамі й апэрацыямі на тэатры ваенных падзеяў, інакш кажучы, на тэрыторыі Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пасьля падаў Бацька рапарт на імя шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі ў Латвіі й Эстоніі палкоўніка К. Езаві-

*Артыкул «Беларусы ў Афрыцы» сп. М. Швэдзюка быў перасланы аўтарам у рэдакцыю газэты «Беларус» ужо даўно. Нажаль, артыкул і дададзеныя да яго здымкі згубіліся, за што рэдакцыя шчыра перапрашае аўтара. Спадар Швэдзюк быў ласкавы выслаць нам копію свайго артыкулу, які й зьмяшчаем ніжэй.*

# БЕЛАРУСЫ Ў АФРЫЦЫ Ў 1942—1948 ГАДОХ

**Сьв. памяці а. Міхаіла Бажэр'янава**

Разам з польскім войскам пад камандаваньнем генэрала Андэрса, якое ў 1942 г. выехала з СССР, было шмат беларускіх цывільных людзей — сем'і вайскоўцаў, іх дзеці, а таксама сіроты й г.д. Пасадка на параходы адбывалася ў порце Краснаводск на Каспійскім моры, адкуль плылі да іранскага порту Пэхлеві, а адтуль дабіраліся пераважна да Тэгерану. Вайскоўцы накіроўваліся далей — у Ірак і Палестыну, а цывільныя на кароткі час засталіся ў Тэгеране.

Тут пачалася перагрупоўка цывільных з мэтаю разьвезьці іх па ўсім сьвеце. Гэтыя няшчасныя людзі, ахвяры сталінска-камуністычнага рэжыму (былыя «спецпереселенцы») трапілі — хто ў Індыю, хто ў Новую Зэляндыю, хто ў Палестыну, Ліван, Мэксыку, Танзанію (тады Танганіка), Радэзію, Уганду, Паўднёвую Афрыку ды ў іншыя краіны. Сялілі пераважна ў лягерох. Людзям далі бясплатнае ўтрыманьне, лячэньне, школьную асьвету. Хто меў здароўе ды сілы, яшчэ трохі дарабляў на розных работах. Дзеці пайшлі ў польскія школы — пачатковыя й сярэднія.

Адзін з найбуйнейшых лягероў у Афрыцы — Тэнгеру (Tengeru) — знаходзіўся ў Танганіцы, каля мястэчка Аруша (Arusha). У гэтым лягеры апынулася шмат беларусаў (мужчыны, ня здатныя да войска, жанчыны, дзеці, сіроты). Сярод гэтых людзей апынуліся мая маці, бабка й тры сястры, а таксама мая будучая жонка са сваймі бацькамі й братамі.

На шчасьце ў лягеры пасяліўся праваслаўны сьвятар айцец Міхаіл Бажэр'янаў (05.11.1911—20.08.1946). Ён быў расеец, паходзіў зь Вільні. Па словах людзей, якія добра яго ведалі, айцец М. Бажэр'янаў быў вельмі адукаваны, высокакультурны й энэргічны чалавек.

Дзякуючы апошняй з гэтых якасьцяў, у Тэнгеру вельмі хутка зьявілася царква, у якой рэгулярна адпраўлялася Божая Служба. У царкве былі вельмі прыгожыя іконы — іх намаляваў адзін італьянскі мастак (тады ваеннапалонны). Царкву наведвалі ня толькі праваслаўныя беларусы й украінцы, але й мясцовыя грэкі.

Зарганізаваў а. Міхаіл і два царкоўныя хоры — дзіцячы й дарослы. Маладыя хлопцы, яшчэ школьнікі, былі ўцягнутыя ў царкоўную працу ў якасьці прыслужнікаў, памочнікаў пры канцылярыі, у друкарні ды г.д. Таму ня дзіўна, што двое хлопцаў з Тэнгеру, ужо пасьля вайны, уступілі ў праваслаўны клір. Адзін зь іх — сьв. памяці Уладзімір Мароз (1994) — быў дыяканам, другі — Уладзімір Зайка (цяпер жыве ў Аўстраліі) — сьвятар.

Побач царквы збудавалі клюб для праваслаўнае моладзі. Гэта рабілася, каб свае трымаліся разам і ня страціліся, не пагубляліся ў чужым (польскім) асяродзьдзі.

А. Міхаіл з дапамогаю іншых людзей выкладаў у школах Закон Божы; езьдзіў ён і ў іншыя лягеры ў Афрыцы, дзе былі праваслаўныя вернікі, каб несьці душпастырскую апеку, падтрымліваць у людзях дух у чужым, не заўсёды спагадлівым акружэньні.

Сьвятар заклаў у Тэнгеру друкарню, у якой выдаваў па-польску свой часапіс «Promyk Prawosławny» («Праваслаўны Прамень»), царкоўную літаратуру, дапаможнікі ды г.д.

У 1944 г. у горадзе Найробі (Nairobi), Кенія, ён выдаў вялікі малітоўнік на 188 бачын (на здымку). Напісаны ён пераважна на царкоўна-славянскай мове польскай лацініцай зь польскамоўнымі ўстаўкамі. Зьмест малітоўніка, апроч уласна малітваў, складаюць сьвятая літургія, вячэрня, трапары, акафісты, месяцаслоў ды інш.

Гэтаю кнігаю карыстаюцца аж да сёньня праваслаўныя вернікі, раскіданыя па ўсім белым сьвеце, і варта добрым словам памянуць а. Міхаіла за ўчыненую справу.

тава са зьвярненьнем да Старшыні Рады Міністраў БНР наступнага зьместу:

*«Атаман Дабравольчаскага Народнага Атраду. 14 лістапада 1919. №754. Старшыне Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Рапарт.*

*Зьяўляючыся грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі, лічу патрэбным, каб маё войска было скарыстана для абароны цэльнасьці й непадзельнасьці мае Бацькаўшчыны, а таму прапаную майму Ураду залічыць мяне й мой атрад на Беларускую Службу.*

*Генэрал-маёр Булак-Балаховіч».*

На гэта Бацька атрымаў адказ:

*«Вайскова-Дыпляматычная місія Беларускай Народнай Рэспублікі ў Латвіі й Эстоніі. №62. 15 лістапада 1919 г.*

*Атаману Дабравольчаскага Народнага Атрада генэрал-маёру Булак-Балаховічу.*

*Грамадзянін Генэрал!*

*Сёньня мною атрыманы ад Вас для перадачы Старшыне Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі рапарт аб тым, што Вы, як грамадзянін Беларусі, лічыце патрэбным стаць на абарону сваёй Бацькаўшчыны, каб забясьпечыць ёй цэльнасьць і непадзельнасьць, і просіце залічыць Вас і камандуемае Вамі войска на службу ў Армію Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Глыбока ўзварушаны Вашай заяваю, я срочным чынам напраўляю яго нашаму Ураду, які, я ў гэтым пэўны, будзе вельмі задаволены ёю і ў самым хуткім часе прышле да Вас паведамленьне аб задавальненьні Вашай просьбы й падзяку ў гатоўнасьці паслужыць Бацькаўшчыне.*

*Да гэтага часу на моцы дадзеных мне Радаю Міністраў паўнамоцтваў я выражаю Вам, Грамадзянін Генэрал, вялікую падзяку ад імені нашай многапакутнай Бацькаўшчыны і паведамляю Вам, што з гэтага дня Вы і Вашае войска лічыцеся на службе ў Арміі Беларускай Народнай Рэспублікі.*

*Шэф місіі палкоўнік Езавітаў».*

Пасьля гэтага адбыўся адпаведны абмен граматамі, а мною быў атрыманы загад аб камандзіраваньні мяне ў чыне рускага капітан-маёра для выкананьня абавязкаў Старшага Ад'ютанта Начальніка Беларускай Брыгады палкоўніка князя Лаппо, які ў канцы кастрычніка 1920 г. захварэў ды быў звольнены, а я стаўся Начальнікам Беларускай Брыгады ў чыне палкоўніка».

Пасьля адведак Ю. Віцьбіча М. Дзямідаў пісаў да яго: «Да глыбіны душы я ўзварушаны Вашым прыймом мяне ў сваёй хаце, а яшчэ больш Вашым лістом. Беспасрэднае спатканьне з Вамі, шчыра кажу, вельмі амаладзіла мяне, мае духовыя сілы. Хочацца жыць! Хочацца верыць у лепшую будучыню!

«О Беларусь, бедная мая старонка: расьце Грыб, паўзе Рак, каркае Варонка! Заклікае Купала. Піша Колас, стогне і плача Мамонька»! Даўно калісь, у родным Дзьвінску, здаецца, Васіль Захарка ў прысутнасьці Езавітава, Крэчэўскага, Бацькі за абедам успомнілі Варонку і Мамоньку. Нявольна ўспамінаюцца даўнія мае часы. Дзякую Вам» (ліст ад 31.07.1964).

У тым самым лісьце пісаў, што працуе над матар'яламі, атрыманымі некалі ад Варонкі (а той у сваю чаргу займеў іх ад Езавітава ў 1926 г.), дзе даводзілася, што Кастусь Каліноўскі дажыў да 1898 ці нават да 1911 году.

На гэты ліст Ю. Віцьбіч адказаў: «Мне здаецца, што матар'ялы К. Езавітава й Я. Варонкі аб праўдападобнасьці жыцьця Каліноўскага да 1898 не адказваюць праўдзе. Перадусім, па самай сваёй натуры Кастусь Каліноўскі аніяк не надаваўся на тое, каб на гэткі вялікі час адыйсьці ўбок ад змаганьня за Вольную Беларусь, абы толькі захаваць сваё ўласнае жыцьцё. Па-другое, пэўне-ж пра жыцьцё Каліноўскага да 1911 ведалі-б ягоныя сваякі, але яны пра гэта акурат нідзе ня згадваюць. І ці ня зблыталі тут Варонка й Езавітаў Кастуся Каліноўскага з Франуком Каліноўскім, якога дзед Абрагам быў родным братам Сямёна Каліноўскага — бацькі Кастуся? Франук Каліноўскі ў 1909 г. у пошуках хлеба й шчасьця паехаў у Амэрыку, але праз колькі год зьвярнуўся назад. Яму цяпер 82 гады, жыве ён у калгасе «Чырвоная Зьмена» Парыцкага раёну Гомельскае вобласьці з малодшым сынам Яраславам, які працуе брыгадырам калгаса. Другі сын, Станіслаў, — інжынэр, жыве ў Ленінградзе, дачка Уладыслава — настаўніца.

Таму матар'ялы аб жыцьці Каліноўскага да 1911 г. цікавяць толькі як паданьне, што патрабуе разбурэньня, бо спрабуе зьменшыць ягоны гэраічны вобраз» (ліст ад 16.08.64).

Апынуўшыся ў Чыкага, М. Дзямідаў расшукваў сваіх старых сяброўпаплечнікаў, браў актыўны ўдзел у царкоўным жыцьці эміграцыі, спадзяваўся пасьпець напісаць успаміны, хацеў пераехаць у Саўт Рывэр, дзе былі, на ягоную думку, больш спрыяльныя ўмовы для працы. Але 23 чэрвеня 1967 г. на 77 годзе жыцьця беларускі генэрал Мікола Дзямідаў памірае.

«Не загіне Край забраны, покі будуць людзі...»

**Л. Юрэвіч**

## ФОТААРХІЎ



*Подпіс на адвароце:*
***1947 год, кастрычнік. Лягер у Міхэльсдорфе, Баварыя. Барак № 6. Вайтовічы, Каралевіч, Е. Стукаліч (маці Ю. Віцьбіча — трэцяя справа), Кайко.***

---

*Jeśli Cerkiew nie jest ci matką,*
*to i Pan Bóg nie będzie ci ojcem!*

Z Bogiem Do Ojczyzny!

**MODLITEWNIK PRAWOSLAWNY.**

Ułożył i opracował: ks. Michał Bożerianow.

Wydawnictwo
Prawosławnego Duszpastorstwa Polskiego
w Afryce.

На вялікі жаль, некаторыя палякі — бязь ніякіх рацыянальных прычынаў — былі варожа настаўленыя да беларусаў, а яшчэ горш да ўкраінцаў. Відаць, так праяўлялася пачуцьцё крыўды палякаў за высяленьні, зьдзейсьненыя бальшавікамі, якія ў сьвядомасьці першых асацыяваліся з расейцамі, а значыць, з праваслаўнымі. А пра тое, што разам зь імі былі выселеныя саветамі ды трапілі на катаргу й праваслаўныя беларусы, — «крэсавякі»-асаднікі хутка забыліся.

Гэтыя людзі забыліся й яшчэ пра адно: вывозілі беларусаў часта за тое, што яны некалі служылі ў «польскіх» маёнтках, абраблялі «панскую» зямлю ды пільнавалі «панскія» лясы. Аднак у разуменьні «крэсавякаў» беларусы й украінцы былі «рускімі» або «схізматыкамі», ад якіх палякі вякамі цярпелі...

Нянавісьць да праваслаўных у Тэнгеру была настолькі вялікаю, што няведамыя хуліганы ўчынілі зьнесьлаўленьне царквы.

На гэта адзначым, што з боку праваслаўных да палякаў ня было варожасьці, наадварот — беларусы й украінцы цалкам ляяльна ставіліся да польскіх паплечнікаў, шчыра служылі ў польскай арміі, ваявалі, пралівалі кроў і гінулі за Польшчу. Ці-ж гэтыя людзі не заслужылі на лепшае стаўленьне да сябе?!

Айцец Міхаіл не заставаўся абыякавы да гэтай варожасьці — ён вырашыў бараніць сваіх вернікаў друкаваным словам. У часапісе «Promyk Prawosławny» (No.7(48) з 1—15.04.1945 і No.8(49) з 16—30.04.1945) зьявіўся перадрук артыкула князя В. Баратынскага «Папежыца Яніна» ў скарочаным перакладзе на польскую мову, які ўпершыню быў апублікаваны ў Парыжы ў 1939 г. Артыкул прысьвечаны жанчыне на імя Яніна (Joanna), якая ў сярэдзіне IX стагодзьдзя нібыта была папам рымскім (навукоўцы да сёньня ня прыйшлі да адзінай думкі адносна праўдзівасьці гэтай гісторыі). Публікацыя выклікала хвалю пратэстаў сярод палякаў-каталікоў, прайшлі сходы, пасыпаліся зьнявагі ў бок а. Міхаіла.

Дзякуючы сьвятару Бажэр'янаву, шмат беларусаў у лягерох Афрыкі ня выракліся свае нацыянальнасьці. Тамжа, дзе ня было людзей, падобных да а. Міхаіла, некаторыя беларусы паддаліся апалячваньню.

Мне невядома, што сталася зь сям'ёю, з роднымі а. Міхаіла. Казалі, што ягоная жонка-«матушка», якая таксама была ў глыбі СССР, праз драматычныя абставіны не змагла выехаць разам зь ім у Іран. Прынамсі, у згаданым вышэй малітоўніку ёсьць просьба маліцца за збаўленьне душ Божых: Аляксандра, Аляксандра, Людмілы, Кацярыны й а. Міхаіла.

У сярэдзіне 40-х а. Міхаіл пачаў хварэць — стала кепска з ныркамі — і трапіў у шпіталь у Дар-эс-Саляме (Dar es Salaam), Танзанія, а 20 жніўня 1946 г. памёр, не пражыўшы й 35 гадоў. Былыя ягоныя прыхаджаны з Тэнгеру ды мясцовыя грэкі паставілі на магіле ў Дар-эс-Саляме вельмі прыгожы помнік з надпісам на ангельскай мове.

У 1948 г. пачалася ліквідацыя лягероў, у тым ліку й у Афрыцы. Людзі пачалі зьяжджаць у іншыя краіны на сталае жыхарства. З зразумелых прычынаў былыя «спецпереселенцы» нават і ня думалі пра вяртаньне на Бацькаўшчыну. Найбольш цывільных з Афрыкі выехала ў Брытанію, каб злучыцца са сваймі мужамі, сынамі, бацькамі, якія служылі ў польскай арміі на Захадзе, а таксама прыбывалі ў Брытанію зь Італіі, Нямеччыны, Палестыны, Эгіпта на дэмабілізацыю. Тут пачыналася «нармальнае» эміграцыйнае жыцьцё. Шмат хто зь беларусаў пакідаў Брытанію ды перабіраўся ў ЗША, Канаду, Аўстралію, Паўднёвую Афрыку.

Гэтак закончыўся яшчэ адзін этап той даўгой і трагічнай дарогі, якая пачалася для мяне 10 лютага 1940 году моцным ударам у дзьверы прыкладам вінтоўкі ды крыкамі энкавэдыстаў: «Открывай дверь!», а потым: «Собирайтесь с вещами!..»

**М. Швэдзюк**

### На 20-ыя ўгодкі сьмерці

# ІВАН ЛЮБАЧКА

Тут, у Амэрыцы, жыве нямала людзей, якія ведалі гэтага чалавека. А ў Беларусі ягонае імя як аўтара манаграфіі *Belorussia under Soviet Rule, 1917—1957* (1972) ведамае толькі вузкаму колу гуманітарыяў, добра зарыентаваных у навуковай літаратуры. Яшчэ меншая частка навукоўцаў на Беларусі мела магчымасьць пазнаёміцца з арыгінальным тэкстам згаданае кнігі — як з прычыны яе недаступнасьці у савецкую эпоху, так і з-за няведаньня ангельскае мовы.

Праўда, савецкая прапаганда заўважыла кнігу даўно й ахарактарызавала яе як «твор буржуазнай гістарыяграфіі» ды «прадукт беларускага буржуазнага нацыяналізму», вызначыўшы тым самым месца яе захаваньня на Беларусі — спэцсховішчы. Гэта фактычна значыла, што кніга магла трапіць у рукі выключна прафэсійных выкрывальнікаў «беларускага нацыяналізму» кшталту С. Паўлава, Л. Прокшы, І. Асінскага, М. Сташкевіча ды інш.

На бачынах некалькіх кніжак, выдадзеных пад грыфам Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КПБ адмыслова для партыйных прапагандыстых, падаваліся некаторыя цытаты й тэзы «буржуазных саветолагаў», у тым ліку й з працы Івана Любачкі. Такім чынам яны траплялі ня толькі ў галовы патэнцыяльных крытыкаў, але й тых, хто займаўся самастойнай вэрыфікацыяй гісторыі. Гэтак тэзы І. Любачкі сталіся ведамыя нацыянальна арыентаваным інтэлектуальным колам.

Асабіста мне згадка пра кнігу І. Любачкі ўпершыню трапілася ў часе майго студэнцтва — у другой палове 80-х. Памятаецца, што, апрача зьместу, прыцягнула ўвагу «неамэрыканскае» прозьвішча геаграфічна амэрыканскага дасьледніка — *Lubachko*. Магчыма, беларус, свой!..

Узьнікла натуральная цікавасьць: хто ён, як трапіў у Амэрыку? А калі яшчэ жыве, то чым займаецца?

Кінуўся ў вочы яшчэ адзін факт. У бібліяграфічных сьпісах прац заходніх саветолягаў ня было ані спэцыяльна прысьвечаных беларускай праблематыцы пазыцыяў, ані беларускіх прозьвішчаў — сярод шматлікіх аўтараў відавочна расейскага, польскага, габрэйскага паходжаньня. На такім фоне прозьвішча *Lubachko* ўспрымалася сыгналам, знакам беларускае прысутнасьці ў заходнім сьвеце ідэяў, дзе ёсьць умовы для выжываньня й разьвіцьця ў тым ліку й нашай нацыянальнай ідэі.

Адна з найважнейшых інтэлектуальных задачаў, якую нашая супольнасьць усьвядоміла ўжо ў першыя пасьляваенныя гады, — патрэба акадэмічнае рэпрэзэнтацыі Беларусі ў вольным сьвеце як адзін з важкіх складнікаў праграмы вызваленьня. Спадзевы ўскладаліся ня толькі на свае ўласныя сілы, але — ці не найперш — на зацікаўленьне беларускаю праблематыкай з боку амэрыканскіх ды эўрапейскіх дасьледчых і акадэмічных інстытуцыяў.

Першым «прадуктам» амэрыканскае акадэмічнае навукі сталася кніга выкладчыка Кэмбрыджскага Ўнівэрсытэту (Cambridge, Massachussets) Н. Вакара *Belorussia: The Making of a Nation* (1956). Нажаль, гэтая манаграфія прынесла ня толькі расчараваньне, але й практычныя камплікацыі для беларускай эміграцыі.

Часам сьвет «кніжных» ідэяў істотна ўплывае нават на сфэру рэальнае палітыкі. Гэтак на адным з паседжаньняў Рады БНР Прэзыдэнт М. Абрамчык канстатаваў, што кніга Н. Вакара спарадзіла нэгатыўнае стаўленьне некаторых амэрыканскіх палітыкаў як да беларускага палітычнага прадстаўніцтва на эміграцыі ў прыватнасьці, так і да беларускае ідэі наагул. Прыйшлося прыкласьці нямала намаганьняў, каб зьмінімізаваць адмоўны імідж беларусаў, створаны згаданаю манаграфіяй.



*1955 г. Фота з архіву М. Латушкіна*

Зрэшты, гэтая няўдача можа быць залічаная ня столькі на рахунак амэрыканскае гуманітарнае навукі, колькі пэрсанальна на рахунак аўтара. Рэч у тым, што Н. Вакара можна толькі ўмоўна, з пэўным агаворкамі назваць прадстаўніком амэрыканскае гістарычнае навукі. З аднаго боку, будучы натуралізаваным амэрыканцам, ён ня здолеў пазбыцца амэрыканскіх стэрэатыпаў ва ўспрыманьні ўсходнеэўрапейскіх рэаліяў; зь іншага боку, як асоба ён фармаваўся спачатку ў Расеі, а пазьней — у Францыі, у колах расейскай эміграцыі, таму для яго былі характэрныя прарасейскія сымпатыі.

Праца Н. Вакара хоць і ня была пазбаўленая мэтадычнае навізны, аднак зьмяшчала ў сабе недаравальна шмат суб'ектыўных, навукова некарэктных і нават зласьлівых ацэнак і цьверджаньняў.

Пасьля Н. Вакара — ажно да 1972 году — амэрыканская акадэмічная навука зболшага заставалася абыякавая да Беларусі, пакуль не пабачыла сьвет кніга І. Любачкі *Belorussia under Soviet Rule,* якую, праўда, ізноў наўрад можна назваць амэрыканскаю вэрсіяй беларускае гісторыі.

Іван Любачка, сын Сьцяпана, нарадзіўся 1 траўня 1915 г. на Полаччыне (паводле іншых зьвестак — на Магілёўшчыне). Пасьля сканчэньня ў 1939 г. матэматычнага факультэту Віцебскага Пэдагагічнага Інстытуту працаваў настаўнікам матэматыкі ў старэйшых клясах Галоўчынскай дзесяцігадовай школы. Ягоны былы вучань, ведамая асоба сярод беларускае эміграцыі, успамінае: «Іван Любачка глыбока цікавіўся краязнаўчымі навукамі, распавядаў блізкім сябрам пра мінулую славу мястэчка Галоўчын».

У 1940 г. І. Любачка быў мабілізаваны. Рэгулярную службу адбываў у інжынэрных войсках пад Берасьцем, дзе й засьпела яго вайна. Адступаў да Палтавы, дзе трапіў у палон, у якім, аднак, прабыў нядоўга: адзін зь мясцовых сялянаў прызнаў яго перад немцамі за свайго сына, і яго выпусьцілі. Небясьпечнымі дарогамі па нямецкіх тылох падаўся на Бацькаўшчыну.

Трапіўшы ў Галоўчын, І. Любачка спрабаваў аднавіць беларускую школу. Гэтаму, праўда, перашкодзілі немцы, і ён быў змушаны перабрацца да бацькоў на Полаччыну. Бацькоўская вёска апынулася ў зоне актыўнае дзейнасьці савецкае партызанкі. І. Любачка адмовіўся ўступіць у ейныя шэрагі, аднак па хлусьлівым даносе быў арыштаваны немцамі ды абвінавачаны ў сувязі з савецкім падпольлем. Па кольких тыднях яго адпусьцілі.

І. Любачка сам выказаў жаданьне выехаць у Нямеччыну, дзе давялося яму прабыць остарбайтэрам да канца вайны. Пасьля апынуўся ў амэрыканскай зоне, жыў у беларускіх лягерох для перамешчаных асобаў, настаўнічаў у беларускіх школах ды гімназіі ў Гібэльштаце й Бакнангу. Ягоныя былыя вучні — гэта адданая грамадзкая працаўніца Надзя Запруднік, сёстры Кулагіны, сёстры Дульскія, знаная мастачка Ірына Рагалевіч ды ейныя браты Сяргей і Алік, Яўген Рымша ды шмат іншых.

У 1950 г. эміграваў у ЗША. Спачатку пасяліўся ў ваколіцах Саўт Рывэру (New Jersey), працаваў на фабрыцы, браў удзел у дзейнасьці беларускіх арганізацыяў. Аднак не пакідала яго мара пра вучобу й навуковую працу.

У 1952 г. І. Любачка пераехаў у Каломбус (Colombus, Ohio), дзе распачаў студыі. Там правучыўся каля дзесяці год. Дыплём доктара філязофіі атрымаў у верасьні 1964 г. у Блюмінгтане (Blumington, Indiana). Тамсама ў мясцовым унівэрсытэце на працягу двух гадоў працаваў выкладчыкам гісторыі. Пазьней пачаў выкладаць гісторыю ў М'юрайскім Унівэрсытэце (Murray, Kentucky), дзе працаваў да канца жыцьця.

Менавіта тут былі апублікаваныя абедзьве кнігі Івана Любачкі — *Беларусь пад савецкай уладай, 1917—1957* (1972) ды *Адукацыя ў СССР* (1973). Першую зь іх аўтар прысьвяціў бацькам.

Манаграфія *Беларусь пад савецкай уладай...* была станоўча ацэненая як навуковым коламі ЗША, так і беларускай эміграцыяй. Менавіта беларусы замежжа былі самымі зацікаўленымі рэцэнзэнтамі. Леанід Галяк у рэцэнзіі «Жменька зацемак» (часапіс *Беларуская Думка*, № 15, 1973), у цэлым пазытыўна адгукаючыся на кнігу, выступіў з крытыкай некаторых канцэптуальных падыходаў і ўказаў на фактычныя недакладнасьці.

Заўважылі працу й у савецкай Беларусі — яе неаднаразова згадвалі камуністычныя гісторыкі, ганячы беларускую нацыянальна-вызвольную ідэю.

Цягам апошніх васьмі гадоў жыцьця Іван Любачка працаваў над вялікім творам — гісторыяй Беларусі, — які, нажаль, не пасьпеў скончыць.

18 ліпеня 1977 г. у часе лекцыі І. Любачка атрымаў сардэчны ўдар. 20 ліпеня, ужо ў шпіталі, здарыўся другі ўдар, якога ён не пералсыў.

Пахаваньне адбылося 22 ліпеня 1977 г. на каталіцкіх могілках у М'юраі. На апошняе разьвітаньне сабралася каля 300 чалавек — прыяцелі, калегі, студэнты. Былі таксама ягоныя былыя вучні: спн. Марыя Кулагін, прадстаўнік Кангрэсавага Камітэту ў штаце Ілінойс сп. Мікалай Латушкін, спадарства Рамукі, а таксама прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў арэалу Чыкага.

Разьвітальную прамову сказаў др Вітаўт Рамук, пасьля чаго праспявалі «Сьпі пад курганам герояў». Абрад пахаваньня адправілі каталіцкі сьвятар і настаяцель Беларускага праваслаўнага прыходу сьв. Юр'я ў Чыкага арх. Язэп Строк.

Перад сьмерцю І. Любачка адпісаў частку свае маёмасьці на заснаваньне адмысловага фонду для падтрымкі досьледаў у галіне беларусазнаўства.

Для Івана Любачкі назаўсёды застанецца месца ў беларускай навуцы. Жыве ў навуковым сьвеце ягоная кніга, дзейнічае ў ЗША Фонд імя І. Любачкі. Непазьбежна прыйдзе час, калі імя гэтага чалавека будзе ўшанаванае й на ягонай роднай Полаччыне, і ў сьценах ягонае *alma mater* — Віцебскага Пэдагагічнага Інстытуту, і на грамадзкіх ды навуковых форумах Беларусі.

**Ю. Васілеўскі**

*20 год таму адышоў у вечнасьць Алесь Салавей*

## 1945, АЎСТРЫЯ

Мне асабіста прыйшлося пазнаёміцца з Алесем Салаўём у 1945 годзе ў Беларускім Камітэце ў Зальцбургу. Там я мела шчасьце пазнаёміцца й з маім мужам, і з Ул. Дудзіцкім. Хутка яны ўключылі мяне ў грамадзкую й культурную працу ў беларускім жыцьці. Разам мы працавалі ажно да 1947 году.

У пакоі майго мужа, дзе жыў таксама Алесь Салавей з жонкай, адбываліся важныя падзеі нашага штодзённага жыцьця. Там мы зьбіраліся на грамадзкія сходкі. Там мы дзяліліся горам і нядоляй. Там мы распачалі выдаваць часапісы «Зь беларускага жыцьця» й «Пагоня».

Мы мелі вельмі вялікі клопат. Ня было ніякіх фінансаў на нашыя выданьні. Мой муж быў вельмі добры арганізатар і зарадны чалавек. Вось ён і распачаў усё й дамогся працы пры УНРА і працаваў у лягернай управе квартармайстрам. Ён камбінаваў як толькі мог, каб выдаваць часапіс. Дзесьці дастаў паперу. Купіў старую машынку да пісаньня ў сп. Яцкевіча. Ён і Салавей доўга правілі гэту машынку, каб пачаць працаваць. Потым купілі ратахтар. Божа-ж мой! Гэта ўсё было такое старое ламачча, але вельмі каштоўнае для нас.

Артыкулы й паэзію пісалі А. Салавей і мой муж. Ул. Дудзіцкі памагаў часам, але не заўсёды, пры выданьні ды апрацоўцы нумароў. Нам часам было крыўдна, бо ён мог-бы шмат больш памагчы.

У склад рэдакцыі часапісу ўваходзілі Алесь Грыцук, Алесь Салавей, Уладзімер Дудзіцкі. Памочнікамі былі Мікола Ганько, Адольф Губерт, Вольга Дуброўская (цяпер В. Грыцук). Я жыла ў другім лягеры й прыяжджала памагаць пры выданьні часапісаў.

Беларусаў у Аўстрыі шмат ня было. Нясьведамыя нармальна прылучаліся да расейцаў або палякаў. Усе сьведамыя належалі да Беларускага Камітэту й былі зарэгістраваныя сябрамі. Не магу прыпомніць дакладнай колькасьці, але каля 30 чалавек.

Мы мелі свайго сьвятара й царкву. Нават быў неблагі хор. Сьвятар быў айцец Нікіфараў з матушкай. Таксама былі вялікая сям'я Губертаў (з 10 чалавек), Янка Грыневіч, Чалоўскі з жонкаю, Яцкевіч, Вера Разумава, сям'я Дуброўскіх (4 асобы), Мікола Ганько.

Мой муж некалькі разоў арганізоўваў з дапамогай украінскага паэты Барыса Александрава (ён пераклаў колькі вершаў Алеся) вечары паэзіі для Салаўя. Алесь вельмі прыгожа дэклямаваў свае вершы. Таксама бралі ўдзел украінскія паэты. І заўсёды былі добра прыманыя заляй.

А. Салавей быў надзвычай сьціплы ды шчыры чалавек. Вельмі здольны й крыху сарамлівы. Калі, бывала, вып'е, тады рабіўся гаваркім і любіў дэклямаваць свае вершы.

У Аўстрыі была яшчэ адна невялічкая група беларусаў — у мястэчку Гайдэльбэрг. Там мы мелі якісь час беларускую школку. Салавей з Дудзіцкім туды езьдзілі выкладаць.

**Вольга Грыцук**

## НОВЫЯ КНІГІ

**Натальля Арсеньнева. Яшчэ адна вясна. Мн., 1996.**

З дапамогаю БІНІМу ў сэрыі «Галасы беларускага замежжа» выдадзена кніга выбраных вершаў адной з найбольш любімых нашых паэтак. Добра, што Н. Арсеньнева пасьпела давядацца пра гэтае выданьне, хоць зрок ужо не дазваляў чытаць. Прачулую, узьнёслую прамову напісала Альбіна Сямёнава. Цешыць, што 1000 чытачоў — такі наклад кнігі — атрымалі магчымасьць дакрануцца да сапраўднай паэзіі. Але не абыйшлося бяз прыкрасьцяў. А. Сямёнава зазначае: «Кампазіцыйная версія кнігі, пытанні арфаграфіі, ілюстравання ўзгоднены з аўтарам». Наўрад ці спадарыня Арсеньнева дала згоду на «наркомаўку», якой выдрукавана кніга, наўрад ці ўпадабала-б фотаздымкі, зьмешчаныя там. Да таго-ж кніга, па сутнасьці, зьяўляецца ня плёнам укладальніцы, а выбраным са зборніка «Між берагамі». А шкода: недрукаванага, расьцярушанага па газэтах, часапісах (як арыгінальных твораў, так і перакладаў паэткі) хапіла-б яшчэ на адзін такі том.

**Айцец Леў Гарошка. Сьвятая Еўфрасіньня-Прадслава, Патронка Беларусі. Мн., 1996.**

Нястомны Ул. Арлоў уклаў і выдаў кнігу ведамага эміграцыйнага гісторыка беларускай царквы, пісьменьніка а. Л. Гарошкі, куды, апрача нарыса пра Еўфрасіньню, увайшлі артыкулы, што друкаваліся ў свой час у часапісе «Божым Шляхам»: «Дахрысьціянская вера нашых продкаў», «Цудатворныя іконы Божае Маці на Беларусі», «Беларуская форма крыжа» ды іншыя. Значную цікавасьць уяўляе рэдкі ілюстрацыйны матар'ял. Можна хіба шкадаваць, што памер кнігі не дазволіў паўней адлюстраваць творчы набытак знанага дзеяча. Кніга а. Л. Гарошкі таксама выдадзеная ў сэрыі «Галасы беларускага замежжа», якая, паводле ўказу Лукашэнкі, ужо перастала існаваць.

**А. Марціновіч. Дзе ж ты, храм праўды? Мн., 1996.**

Крытычныя партрэты Н. Арсеньневай, Ю. Віцьбіча, А. Калубовіча, Ул. Клішэвіча, Р. Крушыны, А. Сакові́ч, А. Салаўя, Я. Юхнаўца, М. Равенскага. Кампілятыўнасьць кнігі кампэнсуецца ейным папулярызатарскім прызначэньнем — «для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту». Кніга атрымала адну зь леташніх літаратурных прэміяў СП.

**А. Канстанцін Бандарук. Пазнай сваё. Беласток—Прага—Саўт Рывэр, 1997.**

Аўтар прапануе чытачу «ў простай, даступнай форме найбольш неабходную інфармацыю з галіны літургічнага жыцьця Царквы: пра малітву, сьвятарства, багаслужбы, абрады, пасты, сьвяты, асноўныя абавязкі праваслаўнага хрысьціяніна».

**А. Канстанцін Бандарук. Праўда вас вызваліць. Беласток—Прага—Саўт Рывэр, 1997.**

У слове «Ад аўтара» сказана: «У сваім сьціплым выданьні прапаную чытачам некалькі дзясяткаў рэлігійных гутарак. Асноўная частка зьмешчаных у іх думак прагучэла ў часе некалькіх гадоў маёй сьвятарскай службы, а таксама ў эфіры беларускай службы радыё «Свабода». Яны адыходзяць ад клясычнага канону царкоўнай казані й маюць форму свабоднага разважаньня. Такая форма ня прынята ў царкоўнай практыцы, але таксама ў якасьці альтэрнатывы гэтыя гутаркі могуць быць карысныя і для вернікаў, і для сьвятароў пры падрыхтоўцы казаньняў».

**Уладзімер Глыбінны. Вялікія дарогі (пра мінулае). Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, друк Міколы Прускага, 1997.**

Кніга дакумэнтальных апавяданьняў і нарысаў з часоў Другое сусьветнае вайны. Падзеі адбываюцца галоўна ў Менску.

**Евангельле паводле Мацьвея й Марка. Пераклад Міхася Міцкевіча. Рэдагаваньне, склад і друк Міколы Прускага. Grand Rapids, Michigan, USA, 1997.**

Напрастольнае. З паясьненьнем устаноўленага парадку чытаньня Евангельскага праз увесь год з паказаньнем евангелістых і пораў чытаньня кожнага.

**Mikhail Pastukhov. Abnormal conditions for media in Belarus. Mn.: IREX, 1997.**

Пераклад артыкулаў Міхаіла Пастухова — былога судзьдзі Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь, прафэсара права — пра стан друку ў Беларусі і зьвязаныя з гэтым пытаньні свабоды думкі.

**Вацлаў Ластоўскі. Выбраныя творы. Мн., 1997.**

Кніга выйшла ў сэрыі «Беларускі Кнігазбор», пра якую мы ўжо пісалі летась. Гэта ўжо трэці том сэрыі. Творы В. Ластоўскага апублікаваныя асобнай кнігай у Беларусі ўпершыню за ўсе пасляваенныя гады. З рэдкімі фотаздымкамі.

Натуральна, што ўсё, напісанае гэтым выбітным дзеячам за нядоўгае жыцьцё, абарванае бальшавікамі, не магло патрапіць на старонкі адной кнігі. Тым ня менш яна дае ўяўленьне пра талент аўтара й пра рознабаковасьць яго́ных зацікаўленьняў: апавесьці («Лабірынты» й «Прыгоды Панаса й Тараса») і апавяданьні, абразкі й легенды, успаміны й вершы, а таксама артыкулы з «Крывіча», «Нашай Нівы», «Гомана», ліставаньне.

Вялікую працу зрабіў укладальнік кнігі Язэп Янушкевіч. Менавіта ён колькі гадоў таму напісаў першы грунтоўны нарыс жыцьця Вацлава Ластоўскага «Неадменны сакратар Адраджэньня», які стаўся асновай прадмовы да «Выбраных твораў». Гэтаксама й камэнтары Я. Янушкевіча да зьмешчаных твораў — сапраўдныя пачаткі «ластоўсказнаўства». Наагул трэба зазначыць, што гэтаму дасьледніку мы абавязаныя цікавымі архіўнымі знаходкамі, шматлікімі публікацыямі, якія пашыраюць уяўленьне пра прэм'ерміністра БНР.

Нельга сказаць, што В. Ластоўскі вяртаецца да нас — ён, бадай, ніколі нікуды ня зьнікаў. Яго ведалі, чыталі — ня толькі на эміграцыі, але й у Беларусі, — перадрукоўвалі, рабілі копіі, пашыралі. Аднак зусім іншая справа, калі на кніжную паліцу да «Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка» можна паставіць «Выбраныя творы», пакінуўшы месца для «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» і, магчыма, важкага зборніка невядомых дакумэнтаў і матар'ялаў, які, будзем спадзявацца, некалі яшчэ выдрукуе Я. Янушкевіч.

## ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА: НОВЫ ЎГЛЯД

*Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч*

*Рана памершы ў Францыі, Аўген Кавалеўскі (1921-1963) пакінуў па сабе ня толькі п'есы, зацемкі ды артыкулы ў часапісах «Моладзь», «Напагатове», «Наперад», а таксама немалы архіў, што нядаўна ўдава пісьменьніка перадала БІНІМу. Як выявілася, А. Кавалеўскі пісаў і вершы. Два зь іх, прысьвечаныя Ул. Дудзіцкаму, былі напісаныя ў Бэрліне 19 верасьня 1944 г. пад псэўданімам Аўген Залешын.*



* * *

З жыцьцёвай цемры нарадзіўся сьвет  
І зазіхцеў, як сонца, у праменьнях...  
І толькі ты, мой дружа і паэт,  
Пазнаў яго ў сваіх імкненьнях.  
Цяпер ён згас. Але ня ты  
У гэтым, знаю, вінаваты,  
А людзі — як заўжды, краты,  
І толькі твой узьлёт крылаты.  
Хай прагне сьмерць крыві людзкой,  
І тхлань жыцьця хай точыць вочы, —  
Ты зь лірай сьмелаю сваёй  
Адчыніш новы сьвет у ночы.

* * *

Праз шкло вакна, цьмяное шкло,  
Ў душу, спавітую тугою,  
Уліўся золак, і сьвятло  
Зіхцела пэрлавай расою.  
І пал натхненьня, пал душы  
Быў сьцішан раніцы хадою...  
Праз шкло вакна, цьмяное шкло  
Прайшлі пачуцьці чарадою.

*Чала я ня хіліў прад сілай*  
*І не качаўся полазам у порсьці,*  
*клумлівай і тупой таўпе*  
*ня біў паклонаў я,*  
*пратораны дарожкі*  
*з пагардай абмінаў,*  
*ламаючы шчырэц навіны.*  
*Вось гэта ўсе мае грахі,*  
*вось гэта ўсё, у чым я вінны!..*

# СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ ФРАНК РОМАНО



Франк Романо нарадзіўся ў сям'і італьянскіх эмігрантаў у Брукліне ў 1925 годзе. Сярэднюю асьвету здабываў таксама ў Брукліне. Скончыў Калюмбійскі Ўнівэрсытэт. Спэцыялізаваўся ў інжынэрыі ды матэматыцы. Дактарат рабіў у Політэхнічным Унівэрсытэце Нью Ёрку, дзе застаўся працаваць на пасадзе прафэсара. Адзначаючы высокія прафэсійныя якасьці сп. Романо, гэты ўнівэрсытэт надаў яму ганаровы тытул *прафэсар эмэрытус*.

У Франка Романо склалася выдатная навуковая кар'ера: ён быў ведамы ў колах спэцыялістаў, меў шмат выкладаў, яго вельмі любілі студэнты.

Па жанімстве зь беларускаю, Алай Орсай, якая выкладала ў тым-жа ўнівэрсытэце, Ф. Романо зацікавіўся беларушчынаю ды пачаў вывучаць беларускую мову. Менавіта дзякуючы яго намаганьням, беларуская мова сталася моваю ягонае сям'і. У 1963—64 гадох быў галоўным цырыманімайстрам на Беларускіх Днёх Сусьветнае Выстаўкі, а ў 70-х выконваў абавязкі галоўнага рэдактара прэс-рэлізаў.

Франк Романо стаў сапраўдным беларускім патрыётам, спрыяў захаваньню беларускасьці сярод моладзі. Ён душою хварэў за Беларусь, скрозь выступаў у яе інтарэсах.

Вечная табе памяць!

**Блізкія сябры.**

## РОСШУКІ

Сваякі зь Беларусі шукаюць ў Амэрыцы родзічаў **Івана Іванавіча Сакалоўскага**. Па нашых зьвестках, І. Сакалоўскі нарадзіўся каля 1918–1920 году ў вёсцы Гулічы Ляхавіцкага раёну, Берасьцейскай вобласьці. У 1939 годзе быў мабілізаваны ў польскае войска.

Пасьля таго, як немцы занялі тэрыторыю Польшчы, ён апынуўся ў Вялікабрытаніі. Там ён ажаніўся. У сям'і І. Сакалоўскага было чацьвёра дзяцей: дзьве дачкі — блізьняты Вольга ды Ганна, 1947 году нараджэньня, і два сыны — Іван ды Міхаіл. У канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў сям'я Сакалоўскіх пераехала ў Амэрыку.

У 1970 (1969?) г. Сакалоўскі прыяжджаў у Менск у складзе турыстычнай групы. Тут ён сустракаўся з родзічамі, сястрой Вольгай і братам Аляксеем, у адным зь менскіх гатэляў. На радзіму, у вёску Гулічы, улады ехаць не дазволілі.

Каля 1972–73 гг. І. Сакалоўскі памёр.

**Зяленка Марыя Мікалаеўна, в. Задор'е, Лагойскі р-н, Мінская вобл. 223145 Рэспубліка Беларусь. Тэл. 73-4-95.**

1 студзеня памёр

**сьвятой памяці**

## УЛАДЗІМЕР ДУНЕЦ

Спачуваньні сям'і й родным выказваюць Кліўлендзкі Аддзел БАЗА і рэдакцыя газэты «Беларус»

## ДЗЯКУЕМ

за дасланыя матар'ялы К. Акуле, Б. Даніловічу, А. Маркевічу, Ю. Найдзюк, М. Швэдзюку, І. Шульгіну.



## БАЗА

АРГАНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЙ МОЛАДЗІ

**запрашаюць**

**на ЯЛІНКУ**

**зь Дзедам Марозам**

**у парафію Жыровіцкае Божае Маці (БАПЦ), Гайленд Парк, Н. Дж.**

**18 студзеня**

пасьля службы а 12:30 папаўдні.

Будзе пачастунак. Бацькі мусяць прынесьці падарункі сваім дзецям.

**Уваход $5 ад асобы.**

## АХВЯРАВАНЬНІ

**На выдавецкі Фонд «Беларуса»**

| | |
|---|---|
| І. Сурвілла | ам. дал. 50 |
| К. Акула | 50 |
| М. Латушкін | 40 |

*Фінансавая справаздача ад Сяргея Трыгубовіча*

**за верасень і снежань**

| | |
|---|---|
| М. Сьнежка | ам. дал. 125 |
| А. Субота (заміж кветак на магілу Ф. Романо) | 100 |
| Л. Трусэвіч | 100 |
| В. Балтрушэвіч | 60 |
| Л. Стагановіч | 55 |
| К. Ворт | 50 |
| М. Брынкевіч (заміж кветак на сьвежую магілу а. Коўша) | 50 |
| Парахвія Царквы Жыровіцкай Божай Маці | 50 |
| Э. Пітушка | 50 |
| Н. Кіт | 40 |
| С. Шабовіч | 40 |
| Е. Завістовіч | 40 |
| В. Кажан | 40 |
| У. Траскевіч | 40 |
| С. Янкоўскі | 35 |
| Г. Арцюшэнка | 30 |
| М. Белямук | 30 |
| У. Валаткевіч | 30 |
| Г. Грамыка | 30 |
| А. Даніловіч | 30 |
| С. Жамойда | 30 |
| О. Канарчук | 30 |
| К. Кумейша | 30 |
| Э. Маркоўскі | 30 |
| О. Махнюк | 30 |
| М. Олыйнык | 30 |
| В. Пашкевіч | 30 |
| А. Радэнковіч | 30 |
| Л. Саковіч | 30 |
| У. Сітнік | 30 |
| Ю. Стагановіч | 30 |
| В. Цярпіцкі | 30 |
| Д. Ясько | 30 |
| М. Абрамчык | 30 |
| Р. Галяк (у памяць Я. Сурвіллы) | 25 |
| Р. Галяк (у памяць Л. Луцкевіча) | 25 |
| А. Непейн | 25 |

**На касэту В. Пархоменкі**

| | |
|---|---|
| Б. Данілюк | 100 |
| Я. Запруднік | 100 |
| З. і В. Кіпелі | 100 |
| І. Цупрык | 50 |
| С. Сокалаў-Воюш | 40 |
| Уладыка Ізяслаў | 25 |
| А. Шукелойць | 25 |
| Б. Даніловіч | 20 |
| Л. Юрэвіч | 20 |
| С. Мурог | 20 |
| Ф. Бартуль | 20 |
| В. Буран | 5 |

**На кнігу пра Міхася Міцкевіча ў Аддзел БАЗА Нью Ёрку:**

| | |
|---|---|
| Беларускі Дабрачынны Фонд у Лёндане (Англія) | ам. дал. 500 |
| А. | 400 |
| М. В. | 100 |
| В. і В. Рамук | 100 |
| М. Грэбень | 70 |
| М. Тулейка | 50 |
| Р. Завістовіч | 30 |
| Б. Даніловіч | 25 |
| В. Яцэвіч | 25 |
| М. Клакоцкі | 20 |
| М. Швэдзюк | 20 |
| К. Вайцяхоўскі | 20 |
| Т. Шэйпак | 15 |
| І. Фанская | 10 |

**Збор сродкаў яшчэ працягваецца.**

**Кнігу ўкладае Марыя Міцкевіч — супрацоўніца Скарынаўскага Цэнтру ў Менску, у якім выйдзе гэтая кніга.**

**На Фонд памяці Натальлі Арсеньневай**

(на дапамогу студэнтам, якіх урад Беларусі выключае з унівэрсытэтаў Беларусі за ўдзел у дэманстрацыях)

| | ам. дал. |
|---|---|
| Раіса Жук-Грышкевіч | 1,000.00 |
| Ніна Шапараў | 250.00 |
| Івонка Сурвілла | 200.00 |
| Арсень Монід | 200.00 |
| В. Мілянцевіч | 200.00 |
| Галіна Русак | 139.74 |
| Ул. Набагез | 139.14 |
| Б. і А. Даніловіч | 136.76 |
| В. Кажан | 69.40 |
| Ганна й Уладзімер Русакі | 68.74 |
| Кастусь Акула | 55.00 |
| А. Маркевіч | 50.00 |
| Вольга Грыцук | 50.00 |
| Кастусь Каранеўскі | 30.00 |
| Надзя Баран | 20.00 |
| Мікола Буцько | 20.00 |
| Элеанора Пітушка | 18.00 |
| Ліда Целеш | 10.00 |
| Вера Радэк | 10.00 |
| Барыс Кірка | 10.00 |
| Юля Пятронак | 10.00 |
| Е.К. | 10.00 |
| Юры й Вольга Няпомняшчыя | 5.00 |
| Раман Кардонскі | 5.00 |
| Раман Лаценькаў | 2.00 |
| Разам на 25 лістапада 1997 | 2,708.78 |

Чэкі-ахвяры на **Фонд Памяці Натальлі Арсеньневай** просім выпісваць на:

Raisa Zuk-Hryskievic (in memory of N. Arsennieva)

і слаць на адрас:

Dr. Raisa Zuk-Hryskievic
54 Mary St.
Barrie, Ont. L4N 1T1

**На выдавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва:**

| | |
|---|---|
| К. і С. Вініцкія | ам. дал. 250 |
| У. Набагез | 200 |
| Ф. і В. Бартуль | 200 |
| А. і Н. Сільвановіч | 100 |
| Сям'я Стагановіч (у памяць Ф. Романо) | 100 |
| Б. Даніловіч | 100 |
| В. Кажан | 100 |
| М. і В. Сьнежкі | 100 |
| Н. і А. Жызьнеўскія | 100 |
| К. Вайцяхоўскі | 100 |
| І. Цупрык | 100 |
| В. Заморская (у памяць Ф. Романо) | 75 |
| О. Канарчук | 70 |
| М. Галоўка | 60 |
| К. Мерляк | 60 |
| К. Акула | 50 |
| І. Казак | 50 |
| М. Грэбень | 50 |
| Ж. Наумчык | 50 |
| М. Латушкін | 50 |
| П. і В. Зыбайла | 50 |
| К. Каравайчык | 40 |
| М. Яраш | 40 |
| І. Панцэвіч | 25 |
| Л. Бяленіс | 25 |

© PDF: Kamunikat.org 2018 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2018